№ 25 (585) 23 чэрвеня 2011 года.
Кошт свабодны.
Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

**Выдавец:** Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК. Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Выдаецца са снежня 1994 года



Праз Глыбокае прайшоў хрэсны ход з праваслаўнымі святынямі

Працяг тэмы на стар. 4

Браслаўскі раён

# І адпачынак стаў не па кішэні

■ Станіслаў Раманчук

**Ужо відавочна, што сёлета з-за крызісу і адсутнасці валюты планы многіх беларусаў адпачыць на моры застануцца нерэалізаванымі.**

Многія ўладальнікі аграсядзіб у азёрным Браслаўскім раёне спадзяваліся на шматлікіх гасцей летам. Гаспадары агратурыстычных гаспадарак “Вікінг” і “Бальсан” летась мелі заяўкі ўжо ў чэрвені да канца лета. У гэтым годзе, у адрозненне ад іншых сваіх калег, яны не сталі падымаць цэны на побыт з харчаваннем (45 тысяч рублёў за адны суткі). Абедзве аграсядзібы заключылі дагаворы з шэрагам турфірм, каб прыцягнуць больш турыстаў на прыроду. Аднак сёлета наступілі горкія рэаліі нашых дзён. Са сталіцы, іншых гарадоў людзі, праўда, на сядзібы тэлефануюць, цікавяцца ўмовамі пражывання, арганізацыяй сервісу. Але потым просяць паўзу падумаць і не робяць нават заказаў на адпачынак выхаднога дня. Аднак гэта не дзіўна, таму што бензін сёлета падаражэў, адна такая паездка за некалькі соцень кіламетраў таксама выходзіць ужо сотню тысяч рублёў і болей. Адзінае, могуць падтрымаць такі тып турысцкага руху замежныя грамадзяне, найперш расіяне, для якіх цэнавы фактар не такі адчувальны, як для беларусаў. Пашчасціць і гаспадарам сядзіб, якія маюць свой сайт у Інтэрнэце, калі еўрапейцаў не напалохае, вядома, неабходнасць набываць дарагія візы на ўезд у Беларусь, ад чаго колькасць жадаючых адпачываць у нас таксама стала змяншацца.



Мёрскі раён

# Вылезла рыбалка бокам

■ Кастусь Александровіч.

**У наш час спробы абысці закон усё часцей заканчваюцца вялікімі непрыемнасцямі для грамадзян.**

Вось і ў Мёрскім раёне каля вёскі Харокава настрой хутка сапсаваўся ў трох жыхароў пасля ўдалай лоўлі рыбы ноччу забароненымі прыладамі. Іх затрымала рэйдавая група Браслаўскай міжраённай інспекцыі разам з возам, на якім былі аж чатыры мяхі, набітыя амаль 900 буйнымі рыбінамі. Ды і адпірацца групе браканьераў не было як, паколькі разам з рыбай на возе была гумавая лодка і сапраўдная электралавільная ўстаноўка. Такім спосабам, вядома, здабываць дармавую рыбку лёгка, чым і заняліся той ноччу рабочы мясцовага Дзісненскага лясгаса, рабочы аднаго з прадпрыемстваў Наваполацка і вучань мясцовай школы. Аднак пры гэтым, відавочна, быў нанесены вялікі ўрон водным угоддзям, паколькі гіне пры такім спосабе лоўлі і шмат малькоў, дробных рыбак. Незаконным чынам было вылаўлена 846 акунёў, шчупакоў, лінёў, карасёў, якія супольна пацягнулі на 83 млн. рублёў. Пачалося следства і, верагодна, будзе распачата крымінальная справа. Тым часам, калі на першы раз могуць пакараць вялікім штрафам, то пры паўторным падобным парушэнні на працягу года можна трапіць і за краты.

Глыбоцкі раён

# Разумнікі і таленты з глыбінкі

■ Станіслаў Раманчук

**Многія на Захадзе не перастаюць здзіўляцца, чаму беларусы ў большасці сваёй высокаадукаваныя, працалюбівыя, старанныя людзі, а па ўзроўню жыцця адны з апошніх на еўрапейскім кантыненце.**

Аднак не стала сенсацыяй, што на прайшоўшым сёлета ў сталіцы Паморскага ваяводства Польшчы – Гданьску – міжнародным конкурсе эрудытаў “Адысея розуму-2011” ганаровае 3 месца заваявала каманда з Глыбокага. Пры гэтым дабіцца гэтага лепшым выхаванцам мясцовай гімназіі і СШ № 3 пад кіраўніцтвам настаўніц Святланы Ляшонак і Таццяны Тарасевіч было няпроста, бо адораныя вучні 6-х класаў супернічалі з яшчэ 70 камандамі з 14 краін свету. Юныя глыбачане заявавалі права ўдзельнічаць у Сусветным фінале сярод самых адораных дзяцей і падлеткаў, абышлі яшчэ 3 каманды з беларускай сталіцы і адну з Брэста. Ды і 5 дзён, праведзеных у Гданьску, запомняцца ім надоўга, як і ўрачыстае шэсце па гістарычнай частцы паўночнай марской сталіцы колішняй польскай дзяржавы. Журы конкурсу высока ацаніла дамашняе заданне глыбачан, іх уменне па-даросламу мысліць, вырашаць нестандартныя праблемы. Дарэчы, мясцовыя эрудыты Ліза Блашко, Даша Зайкоўская, Маша Галяк, Паліна Іўко, Паліна Мацкевіч, Аня Тарасевіч і Фама Ляшонак трапілі ў лік пераможцаў трэці раз. Падмурак іх выдатных дасягненняў быў закладзены яшчэ ў пачатковых класах, калі яны займаліся ў гуртку “Вучуся творча мысліць” і адначасова даволі прыстойна авалодвалі замежнай мовай.

## Лічба нумара

**20,2%** такім у Беларусі, па дадзеных статыстыкі, аказаўся агульны рост цэн толькі за першыя 5 месяцаў года. Нягледзячы на ўсе намаганні кіраўніцтва краіны знізіць цэны і запоўніць зноў магазіны таварамі, колькасць малазабяспечаных беларусаў расце, як і істотна ўжо скараціліся рэальныя заробкі людзей, асабліва працаўнікоў бюджэтнай сферы (падзенне даходаў на 15,2 %). І самае сумнае, у бліжэйшы час паляпшэння сітуацыі не прадбачыцца, наадварот, інфляцыя ў нас наўрад ці спыніцца, хутчэй усім прыйдзецца яшчэ больш зацягнуць свае паясы.

На гэта ўказвае зацверджаны ўрадам план дзеянняў № 662 па забяспячэнні збалансаванага развіцця эканомікі. Цікава, што спачатку гэты дакумент быў сакрэтным для грамадства і спецыялістаў, пад грыфам “для службовага карыстання”. І толькі праз некалькі дзён сталі вядомы намечаныя адміністрацыйныя меры, якія, аднак, не спрабуюць ліквідаваць глыбінныя прычыны наступіўшага эканамічнага крызісу. Характэрна, што ў самім Міністэрстве эканомікі яшчэ нядаўна рэальна ацэньвалі сітуацыю і не выключалі да канца 2011 года агульную інфляцыю на ўзроўні 55-75 %.

Апошні паказчык, заўважым, нават у 7-9 разоў вышэйшы за раней зацверджаны ўзровень гадавой інфляцыі 7,5-8,5 %. Пасля дэбатаў у Саўміне гэтае Міністэрства знізіла новы афіцыйны прагноз росту цэн у канцы года – 33-39 % – пры ўмове, “калі сітуацыя будзе стабільнай”. А на валютным і спажывецкім рынках для простых людзей вострых праблем толькі прыбаўляецца, цяпер спажыўцы прыходзяць у крамы–і вочы на лоб лезуць ад цэн на тавары і прадукты харчавання. Вельмі многія з іх становяцца проста недаступнымі, на пенсію альбо зарплату зараз грошай хопіць хіба на тое, каб неяк пракарміцца.

Праўда, хлеб і малако яшчэ даступныя, а вось імпартныя тавары, бытавая тэхніка, прычым айчыннай вытворчасці, падаражэлі нават у 3 і больш разы. Каўбасныя вырабы таксама істотна падаражэлі, і найбольш таннае – курынае мяса. Па іншых пазіцыях становішча вельмі няпростае: імпартнай бытавой хіміі, морапрадуктаў, рыбы, тых жа бананаў, кавы і імпартных цыгарэт з-за адсутнасці валюты хутка на прылаўках магазінаў і ў гіпермаркетах проста не будзе. Крызіс на тое і крызіс, што на беларускіх запраўках увялі ліміт 25 літраў за наяўны разлік для легкавушак. Аўтамабілістаў папярэдзілі ў пачатку чэрвеня, што кошт паліва можа неўзабаве вырасці да 1 $ за адзін літр.

Дзень 24 мая прывёў да рэкорднай дэвальвацыі нацвалюты, на што імгненна адрэагавалі расцэнкі на тавары і прадукты, рэзка падаражэлі білеты на міжнародныя паездкі на аўтобусах і па чыгунцы. Услед за гэтым па новых цэнах насельніцтву прыйшлося набываць цукар (рост амаль на 40 %) і гарэлку. Неўзабаве стане для беларусаў яшчэ больш недаступным і мяса, бо на 8-10 % павышаюцца адпускныя цэны на свініну і ялавічыну. Чакалася далейшае павышэнне цэн на тытунёвыя вырабы, алкаголь і піва, а затым і на камунальныя паслугі і медыкаменты, бо за газ, імпартную сыравіну для іх вырабу неабходную валюту “Белтрансгаз” і “Белбіяфарм” закупляюць на новым курсе Нацбанка.

Каб неяк супакоіць насельніцтва, урад аб’явіў аб пераразліку працоўных пенсій, увядзенні безнаяўных жыллёвых субсідый для маламаёмых, штомесячнай індэксацыі зарплат бюджэтнікам. Магчыма, нават павысяць дапамогі па беспрацоўю, узровень якога можа павялічыцца ў краіне. На шчасце, Беларусь атрымала крэдыт з Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС у памеры 3 млрд. долараў на працягу 3 бліжэйшых гадоў і звярнулася за падтрымкай да місіі МВФ.

Як выхад з цяжкай сітуацыі – прыход у краіну замежных інвестыцый у суме 6,5 млрд. долараў. Але пакуль з гэтай сумы мы атрымалі толькі 64 млн. Пакуль дзяржава вырашыла вярнуцца да праверанных адміністрацыйных метадаў кантролю цэн і ціску. Ці дапаможа новае закручванне гаек у гэтай сферы, стане вядома ўжо хутка. Каб спыніць падзенне жыццёвага ўзроўню, відавочна, трэба весці разумную эканамічную палітыку, спыніць накачванне эканомікі пустымі грашыма і, нарэшце, стабілізаваць валютны рынак.

Інакш нас чакаюць альбо магазіны-музеі з дарагімі таварамі, якія мала хто будзе купляць, альбо крамы з пустымі полкамі і таварным дэфіцытам, апусцеўшыя рынкі.

## Надвор’е ў Глыбокім

www.rp5ru

| | чацвер 23.06.11 | | | | пятн. 24.06.11 | | | | сб. 25.06.11 | | | | нядз. 26.06.11 | | | | 27.06. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | +12 | +20 | +19 | +18 | +13 | +17 | +20 | +17 | +13 | +14 | +14 | +13 | +9 | +14 | +15 | +14 | +10 |
| Ціск, мм | 746 | 744 | 743 | 744 | 745 | 746 | 745 | 744 | 744 | 744 | 744 | 745 | 744 | 745 | 745 | 746 | 746 |
| Вільготнасць, % | 92 | 74 | 89 | 82 | 87 | 70 | 54 | 79 | 87 | 91 | 81 | 81 | 83 | 71 | 59 | 68 | 73 |
| Вецер м/сек | Ю 3 | Ю 6 | Ю-З 5 | С-З 3 | С-З 2 | С-З 1 | З 3 | З 1 | С-З 2 | С-З 2 | С-З 2 | С-З 3 | С-З 3 | С-З 3 | С-З 5 | С-З 4 | С-З 4 |

## Дзень за днём

**Урад Беларусі і Нацбанк звярнуліся ў МВФ з просьбай аб прадастаўленні краіне новага стабілізацыйнага крэдыту, раней заходні фонд прадаставіў нам крэдыт з 5 траншаў на агульную суму 3,46 млрд. $. Для беларусаў прыпынілі льготнае спажывецкае крэдытаванне для набыцця айчынных тавараў з 55 таварных груп. А вось цукар ядражэў ужо некалькі разоў, і за 4 месяцы вырас у цане у 2 разы, грашовыя страты людзей ад падзення рэальных заробкаў амаль у 20 разоў перавысілі выплачаную індэксацыю бюджэтнікам. Колькасць абітурыентаў у РБ сёлета зменшылася на 22 тысячы, на цэнтралізаванае тэсціраванне запісалі 150 тысяч юнакоў і дзяўчат.**

# Важнейшыя навіны свету

**Расія.** Прэзідэнт РФ Д. Мядзведзеў адмовіў Украіне ў далейшых пастаўках таннага газу за адмову далучыцца да Мытнага саюза і яе намер далей інтэграваца з Еўрасаюзам.

**Францыя.** Спецыяльная камісія Савета Еўропы рэкамендавала краінам ЕС забараніць карыстацца дзецям у школах мабільнымі тэлефонамі, бо яны шкодзяць здароўю вучняў.

**Лівія.** Пасля адмовы РФ дапамагчы дыктатару Джамахіры М. Кадафі на бок апазіцыі перайшлі больш за 100 высокапастаўленых ваенных і генералаў, НАТА ўзмацніла атакі.

**Егіпет.** Краіне і Тунісу дзяржавы-члены "Вялікай васьмёркі" паабяцалі да 2013 года выдзеліць ад 20 да 40 млрд. $ на стварэнне новых рабочых месц, далейшага іх развіцця.

**Літва.** Удзельнікі канферэнцыі ў Сейме краіны заклікалі Расію не фінансаваць пабудову Беларускай АЭС, экс-старшыня Вярхоўнага Савета РБ С. Шушкевіч не пагадзіўся з гэтым.

**Карэя.** Кампаніі "Hyundai Motors" і "Kia Motors" на сваіх заводах увялі дадатковыя суботнія змены, каб задаволіць попыт на аўто з-за цяжкасцей у сваіх канкурэнтаў з Японіі.

**Германія.** На поўначы краіны выявілі каля 1,5 тысячы выпадкаў цяжкай кішэчнай інфекцыі, памерла 18 чалавек, першыя ахвяры з'явіліся і ў іншых дзяржавах ЕС.

**Сірыя.** Пад ціскам абуранага народа прэзідэнт Башар Асад аб'явіў усеагульную амністыю некалькі тысячам удзельнікаў апазіцыйных рухаў.

**Абхазія.** Раптоўная смерць ад раку прэзідэнта непрызнанай рэспублікі С. Багапша выклікала зноў вострую барацьбу за ўладу і кантроль за фінансавымі патокамі з Расіі.

**Латвія.** Парламент краіны з 2-й спробы абраў новага прэзідэнта, былога банкіра Андрыса Берзіньша пасля няўдалага рашэння папярэднага лідара ініцыяваць роспуск Сейма.

**Турцыя.** Ад атручвання падробным віскі на курорце Бодрум памерла 28-гадовая расіянка, арганізатар паездкі, яшчэ 6 расіян з тургрупы трапілі ў рэанімацыю, 2 з іх потым памерлі.

**Бразілія.** Цудам застаўся жывы 81-гадовы ўладальнік бара ў горадзе Алта Фларэста, у яго твар стрэлілі злачынцы, аднак куля адскочыла ад устаўной сківіцы зубнога пратэза.

**Туніс.** У Сяродземным моры на шляху ў Італію патанула рыбацкае судна з 800 нелегаламі-афрыканцамі, да 270 чалавек прапалі без звестак, астатніх людзей выратавалі.

**Расія.** Папулярны спявак Стас Міхайлаў, у якога 3 дзяцей ад розных шлюбаў, прызнаў і пазашлюбную дачку Дашу, яна ездзіць у госці да яго бацькоў у Сочы.

**Англія.** Двайны штраф у суме некалькіх тысяч фунтаў стэрлінгаў заплаціў 34-гадовы кіроўца за тое, што вёў аўто з дапамогай толькі ног, калі карыстаўся адразу 2 мабільнікамі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Салігорск.** З мэтай атрымання дадатковых сродкаў у дзяржбюджэт з 1 чэрвеня для "Беларуськалія" павысілі экспартную пошліну на калійныя ўгнаенні з 50 да 75 еўра/тона.

**Брэст.** У адзін з дзён ажыятажнага попыту ў вобласці прадалі 1000 тон цукру, у 100 разоў болей звычайнага, цукровы завод у Жабінцы спыніў свае экспартныя пастаўкі.

**Магілёў.** Дачку экскандыдата ў прэзідэнты Р. Кастусёва пазбавілі працы настаўніцы музыкі ў дзіцячай школе мастацтваў №6, яна скончыла музвучылішча, Акадэмію музыкі.

**Мінск.** У сталіцы завяршылі дэмантаж гасцініцы "Кастрычніцкая", пасля капітальнай перабудовы туркамі яна стане 5-зоркавым "Прэзідэнт-гатэлем" з паркінгам, басейнам.

**Ганцавічы.** Моцны град за 20 хвілін знішчыў пасевы на палях 3 калгасаў, стыхія без ураджаю пакінула палеткі вяскоўцаў, у вёсцы Кукава выбіла вокны, пашкодзіла дахі дамоў і школы.

**Магілёў.** Малзавод "Бабуліна крынка" прывёз з Масквы 4 залатыя медалі і "Знак якасці XXI стагоддзя" за свае вырабы, экспарт прадукцыі летась склаў 92 млн. долараў.

**Рэчыца.** На міжнародным конкурсе ў Бельгіі "Monde Selektion" айчынных сорт светлага піва "Рэчыцкае Белы Бархат" заваяваў залаты медаль, гэта дазволіць яму экспарт у ЕС.

**Баранавічы.** Да 3 гадоў "хіміі" і кампенсацыі ўрону суд прыгаварыў мярзотніка, які зімой абрабаваў шэраг магіл , сярод іх пахаванне лётчыкаў, загінуўшых у Польшчы.

**Гродна.** Дырэкцыі СЭЗ "Гроднаінвест" тэрмінам на 20 гадоў перадалі правы кіравання спецыяльным турыстка-рэкрэацыйным паркам "Аўгустоўскі канал" ля ракі Нёман.

**Мікашэвічы.** Новая фінская лінія драблення коштам 44 млрд. рублёў па інвестплане аказалася непрыгоднай для работы з запасамі айчыннага граніту.

**Гомель.** На фоне ажыятажнага попыту на іншамаркі 43-гадовы гараджанін ашукаў 15 чалавек і знік, абяцаючы ім прыгнаць аўто з Германіі, адзін з пацярпелых аддаў махляру 36 тысяч еўра.

**Нясвіж.** Суд нарэшце апраўдаў жыхара райцэнтра, які адседзеў амаль 9 гадоў за забойства, хоць быў невінаваты, родныя прайшлі ўсе кругі пекла, каб дабіцца праўды.

**Магілёў.** Мясцовы дзяржуніверсітэт харчавання заключыў пагадненне з сусветна вядомай кампаніяй "Heineken" па падрыхтоўцы тэхналагаў - півавараў з практыкай на яе заводах.

**Баранавічы.** Паблізу горада адкрыўся новы завод па перапрацоўцы 70 тысяч тон цвёрдых бытавых адыходаў у год коштам 17 млрд. рублёў, ён забяспечыў работай 80 чалавек.

**Дудуткі.** "Чароўная ноч класікі ў музеі пад адкрытым небам" сабрала у дзяржмузеі народнай архітэктуры і побыту, каля 80 музыкантаў і 20 салістаў і амаль 2 тысячы гледачоў.

## МЗС Літвы жадае зрабіць плату за візы беларусам сімвалічнай



Міністр замежных спраў Літвы Аўдронюс Ажубаліс хуткім часам прапануе ўраду выдаваць літоўскія візы грамадзянам Беларусі за сімвалічную плату. "Я б жадаў, каб плата была сімвалічнай. Буду рабіць усё, каб рашэнне прынялі як мага хутчэй. Мне б хацелася, каб ужо ўлетку грамадзяне Беларусі маглі скарыстацца гэтай магчымасцю", - сказаў ён.

"Спадзяюся, што Беларусь паступіць аналагічным чынам у адносінах да грамадзян Літвы", - адзначыў Аўдронюс Ажубаліс, перадае DELFI.

Раней у Літве дзейнічаў закон, паводле якога ўрад мог адмяніць консульскі збор за нацыянальныя візы памерам у 60 еўра толькі тады, калі такія ж меры прыняла б Беларусь. Але 20 чэрвеня літоўскі парламент дазволіў зменшыць плату за візы ці наогул яе адмяніць для дасягнення мэт знешняй палітыкі і нацыянальнай бяспекі.

Як раней перадаваў Тэлеграф, Еўрапейскі саюз, нягледзячы на ўзмацненне жорсткасці санкцый, плануе абмеркаваць спрашчэнне візавага рэжыму з Беларуссю. Пра гэта 20 чэрвеня заявіла вярхоўны прадстаўнік ЕС па замежных справах і палітыцы бяспекі Кэтрын Эштан. "Мы будзем працягваць падтрымліваць беларускі народ, у прыватнасці, у форме дыялогу пра спрашчэнне візавага рэжыму з Беларуссю", - сказала яна.

## Адменена даведка на банкаўскі перавод грашовых сродкаў

■ БелаПАН

**Аляксандр Лукашэнка 17 чэрвеня падпісаў указ № 254 "Аб унясенні змены ва Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 7 лютага 2006 г. № 71".**

Дакумент "прадугледжвае адмену даведкі, што выдаецца падатковымі органамі, якая пацвярджае правы на ажыццяўленне банкаўскага пераводу грашовых сродкаў фізічнай асобе", паведаміла прэс-служба Прэзідэнта.

"Скарачэнне адміністрацыйнай працэдуры "Выдача даведкі, якая пацвярджае правы на ажыццяўленне банкаўскага пераводу грашовых сродкаў фізічнай асобе" значна скароціць часавыя затраты юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў, а таксама ліквідуе залішнія адміністрацыйныя бар'еры пры ажыццяўленні імі прадпрымальніцкай дзейнасці", адзначаецца ў прэс-рэлізе.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** На прыгранічных АЗС вобласці ў маі рэалізацыя саляркі і бензіну вырасла амаль у 3 разы, на асобных запраўках на граніцы з Расіяй – больш чым у 5 разоў.

**Полацк.** Ва ўрадзе РБ пачалі ацэньваць актывы прадпрыемства па транспарціроўцы нафты "Дружба", гэта падрыхтоўчы этап работ па яго магчымай далейшай прыватызацыі.

**Ушачы.** Паблізу вёскі Цетча на полі знайшлі цэлы смертаносны арсенал з 161 снарада часоў вайны і 16 узрывальнікаў да іх, сюды прыбылі сапёры і абясшкодзілі знаходку.

**Наваполацк.** У лік лепшых экспарцёраў Беларусі па выніках 2010 года ўвайшло СТАА "ЛЛК-Нафтан", на цырымоніі ў Мінску у адной з 16 намінацый прадпрыемства атрымала дыплом.

**Талачын.** Старшыня Дзяржкантролю РБ А. Якабсон даручыў разабрацца, чаму такое дарагое (29 млрд. рублёў) новае бульбасховішча і існуе недахоп тавараў у крамах раёна.

**Расоны.** На тэрыторыі вядомай аграсядзібы "Кролава хата" ў вёсцы Забор'е прайшоў першы абласны злёт уладальнікаў аграгурагсападарак, іх у вобласці зараз дзейнічае 316.

**Віцебск.** Вышэйшы гаспадарчы суд РБ адмяніў рашэнне сваіх абласных калег, якія неабгрунтавана аштрафавалі гараджанку на 10 БВ з падачы яе былой аднакласніцы.

**Талачын.** У вёсцы Марцюхова, размешчанай на трасе Брэст-Масква, наводзяць сум 5 закінутых, напаўразбураных дамоў, але ў Коханаўскага пассавета няма сродкаў на знос.

**Віцебск.** Старшыня абласнога аддзялення Саюза палякаў Уладзіслаў Токараў тэрмінова выехаў у Польшчу пасля вобыскаў у кватэры, канфіскацыі яго 2-х ноўтбукаў, камп'ютара.

**Лёзна.** У рамках падрыхтоўкі да абласных "Дажынак" у райцэнтры спілавалі каля 300 таполяў і старых ліп, грошай на абнаўленне 70 розных аб'ектаў з-за крызісу не хапае.

**Віцебск.** У папраўчай калоніі для падлеткаў №1 адбыўся прэм'ерны паказ спектакля па п'есе А. Дударава, асноўныя ролі ў ім выканалі каланісты, тэатр тут існуе некалькі год.

**Наваполацк.** Металічныя дзверы ААТ "Белсплат" сталі пераможцамі Міжнароднага фестываль- конкурсу "Выбар года-2010" у РБ у намінацыі "Будаўніцтва і рамонт".

**Віцебск.** Па рашэнні сінода Рускай праваслаўнай царквы мясцовае духоўнае вучылішча пераўтворана ў духоўную семінарыю, яе рэктарам прызначылі архіепіскапа Дзімітрыя.

**Браслаў.** Пагранслужба гатова да адкрыцця малога прыгранічнага руху з Латвіяй і Літвой пасля 1 ліпеня, але ён запрацуе бліжэй да канца года праз месяц пасля абмену нотамі МЗС краін.

**Віцебск.** У форме пірамiды з 8 паверхаў ў горадзе хутка здадуць першую чаргу бізнес-цэнтра "Марка-сіці" з буцікамі і офісамі, акрамя ліфтаў будуць працаваць і 6 эскалатараў.

*Служба інфармацыі "ВГ".*


Фота Ул. Скрабатуна

# Праз Глыбокае прайшоў хрэсны ход з праваслаўнымі святынямі

■ Кастусь Шыталь

**18 чэрвеня глыбачане віталі ўдзельнікаў праваслаўнага хрэснага хода "Пад пакровам Прасвятой Багародзіцы". Пілігрымы 6 чэрвеня выйшлі з Полацка і 28 жніўня прыйдуць у Жыровічы, адолеўшы за тры месяцы больш як паўтары тысячы кіламетраў.**

Удзельнікі хрэснага ходу нясуць шанаваныя беларускімі праваслаўнымі святыні – старажытны абраз Маці Божай Жыровіцкай, часцінкі мошчаў Еўфрасінні Полацкай і шаркоўшчынскага святара-пакутніка Канстанціна Жданава.

Пілігрымы ідуць дарогамі, спяваючы паркоўнаславянску "Госпадзі Ісусе Хрысце, Сыне Божы, памілуй нас, грэшных". Яны ўжо прайшлі Верхнядзвінск, Мёры, Браслаў, а ў мінулую суботу прыйшлі ў Глыбокае. Некаторыя глыбачане далучыліся да хрэснага ходу ў Шаркоўшчыне, іншыя сустракалі на падыходах да горада і ў самім Глыбокім.

"Пакланіцеся Маці Божай! Прайдзіце пад цудатворнай іконай!" – заклікалі гараджанаў двое пілірымаў, якія ішлі наперадзе калоны. Людзі кланяліся, становячыся на калені, і цудатворны абраз Маці Божай праносілі над імі. Многія глыбачане, чакаючы хрэсны ход каля сваіх дамоў, высцілалі дарогу кветкамі. На тварах вернікаў, якія сустракалі хрэсны ход, можна было пабачыць слёзы.



На выхадзе з Беразвецкага манастыра. Фота Ул. Скрабатуна



Фота Ул. Скрабатуна На Савецкай вуліцы.

# Праграма Ўрачыстасцяў Св. Яна Хрысціцеля ў Мосары.

**23-26. 06. 2011 года.**

**Падчас парафіяльнага Адпуста святога Яна Хрысціцеля 24 чэрвеня натоўпы пабожных людзей збіраюцца ў мосарскім касцёле, знаходзячы палёгку ў цярпеннях, здароўе, вызваленне ад алкагольнай залежнасці, Божую ласку і благаслаўленне, аб якіх прыходзяць прасіць святога Юстына. Святкаванне парафіяльнага свята ў Мосары, устаноўленага Апостальскай Сталіцай і Святым Айцом Піем X парафіяльнага Адпуста ў 1908 годзе, у дзень успаміну святога Яна Хрысціцеля ў гэтым годзе будзе па наступным раскладзе:**

**23 чэрвеня (чацвер). Вігілія Урачыстасці Св. Яна Хрысціцеля.**

18:00 - Святая Імша з казаннем.
Канферэнцыя „Адведзіны св. Эльжбеты, Наданне імя – Ян будзе названы, Хрост у Ярдане, Вось Баранак Божы".
19:30 – малітва падзякі перад рэліквіямі святога мучаніка Юстына за скарб хрысціянскай веры.

**24 чэрвеня (пятніца). Урачыстасць Святога Яна Хрысціцеля.**

13:00 – Святая Імша з казаннем.
Канферэнцыя "Напамін Іраду"(пасля Св. Імшы).
17:00 – Святая Імша аб цвярозасці беларускага грамадства.
18:00 – Святая Літургія ва ўсходнім абрадзе.
Спеў хору Уніяцкай царквы з г. Віцебска і г. Полацка.



**25 чэрвеня (субота).**

17:00 – Малітва на Ружанцы за сем'і, моладзь і дзяцей каля капліцаў.
19:00 – Святая Імша з казаннем.
Канферэнцыя "Трагічны вынік танца дачкі Ірадыяды Саламеі, Забойства Яна Хрысціцеля".

**26 чэрвеня (нядзеля). Урачыстасць Святога Яна Хрысціцеля.**

13:00 – Урачыстая Святая Імша з Працэсіяй па вуліцы вакол касцёльнай тэрыторыі.
Спеў хору, канцэрт.

*Ксёндз Аляксей Юркайць, адміністратар парафіі Мосар.*

# У Польшчы выйшла кніга пра каталіцкае жыццё на Докшыччыне

■ Кастусь Шыталь

**Каталіцкі манах Ян Фібэк выдаў кнігу "Wskrzeszenia na pograniczu dwóch światów" ("Уваскрашэнне на памежжы двух светаў"), прысвечаную гісторыі каталіцкага жыцця на Докшыччыне.**

Докшыцкі раён знаходзіцца на водападзеле басейнаў Нёмана і Дняпра. Аўтары XIX стагоддзя лакалізоўвалі Докшыцы "на памежжы Літвы і Русі", гэта было памежжа ўсходняй і заходняй традыцый хрысціянства. Каталіцкая супольнасць, якая пасля 1921 года засталася ў СССР, пацярпела велізарныя страты – падчас сталінскіх рэпрэсій цэлыя сем'і каталікоў былі растраляныя або вывезеныя на Сібір. У заходняй частцы Докшычыны пасля 1939 года застаўся толькі адзін дзеючы касцёл у Ваўкалаце.

"Гэтая публікацыя паўстала не для здабывання навуковых тытулаў, а выключна з "патрэбы сэрца" і любові да месцаў, у якіх давялося мне калісьці працаваць душпастырам", – піша ў прадмове айцец Ян Фібэк. Назва кнігі сведчыць, як піша аўтар, пра "Хрыстовае дзеянне, якое вяртае жыццё тым, у чыім існаванні можна было ўжо засумнявацца".

Аўтар даследаваў велізарны пласт крыніц па гісторыі каталіцтва на Докшыччыне. У кнізе можна знайсці спасылкі на сотні дакументаў, якія захоўваюцца ў нацыянальных, касцельных і прыватных архівах, дзясяткі навуковых прац і публікацый у прэсе. Сабраўшы інфармацыю па драбніцах, аўтар вельмі дэталёва прадставіў гісторыю каталіцкіх кляштараў, касцёлаў, капліц, касцельных маёнткаў.

Кнігу а. Яна Фібэка можна лічыць найбольш грунтоўным даследаваннем гісторыі Докшыцкага раёна. Аднак аўтар падкрэслівае, што выданне павінна стаць падмуркам для далейшых даследаванняў. Ён дае пералік крыніцаў, якія могуць праліць святло на невядомыя пакуль аспекты рэлігійнай гісторыі Докшыччыны. Мова і стыль выдання не надта зручныя для масавага чытача, затое праца ўяўляе сабой вялікую цікавасць і каштоўнасць для мясцовых краязнаўцаў.

*Спампаваць электронную версію кнігі можна ў краязнаўчай рубрыцы сайта* **westki.info.**



**Касцёл у Параф'янаве. Выява з кнігі "Задыяк нябесны на зямлі", выдадзенай у 1650 годзе.**

# У Глыбокім разбурылі брукаванку, па якой хадзіў Напалеон Банапарт

**Не, ну это просто – П____Ц! Недавно приезжали с друзьями из Минска, гуляли по городу, ходили по этой дорожке... Я им ещё рассказывал, что это чудом сохранившийся кусочек старинной дороги! А теперь что? Ну, неужели настолько нет мозгов у людей???!!! Всех ответственных за этот ВАНДАЛИЗМ необходимо привлечь к ответственности!!! Думаю: письма в прокуратуру будет достаточно, конечно, не в глубокскую! Как можно так не любить или не понимать свою историю? Дикость!**

Такі каментар пад нікам Stepan пакінуў наведвальнік сайта **westki.info**, калі прачытаў паведамленне аб знішчэнні брукаванай дарогі, якая знаходзілася ўздоўж левага боку царкоўнай агароджы.

Чаго едуць людзі ў Глыбокае? Здагадайцеся, шаноўнае спадарства, з трох разоў!

Так, Вы здагадаліся з першага разу! Паглядзець нашую гісторыю, адчуць подых мінуўшчыны, палюбавацца пякнотамі прыроды. І ўсё тут мае сэнс: і сілуэты храмаў, і дрэвы старыя, і брук пад нагамі… Ну, якога ражна людзі паедуць глядзець на новы асфальт! Яго пад нагамі хапае і ў Мінску, і ў Віцебску, і ў Полацку…

У Глыбокім, з левага боку царкоўнай агароджы, разабралі старасвецкі брук. Вядзецца падрыхтоўка да ўкладкі асфальтавага пакрыцця да крамы «Кармы». Перад самой крамай згрувашчана тратуарная плітка. Можа тое й файна! Будзе тут прыгожа!

Аднак пікантнасць сітуацыі заключаецца ў тым, што гэты брук, які ляжыць тут ці не з часоў існавання кармеліцкага кляштара, глыбоцкія ўлады паставілі ў планы рэканструкцыі да Дня беларускага пісьменства, які адбудзецца ў 2012 годзе. Кажуць, што гэты план, адным з пунктаў якога было аднаўленне брукаванкі, ужо ўхвалены губернатарам.

Інфармацыя аб тым, што згаданую вышэй брукаванку глыбоцкія ўлады планавалі аднавіць да Дня беларускага пісьменства, між іншым, сыходзіць і са шматлікіх публікацый у СМІ, якія заснаваныя на інтэрв'ю з некаторымі нашымі чыноўнікамі. Значыць, сапраўды былі такія намеры.

Дык чаго яе разабралі? Атрымліваецца, як у той байцы Крылова – лебедзь, рак і шчупак! Адны чыноўнікі плануюць адрамантваць брукаванку і даюць інтэрв'ю, другія (нейкія накшталт падрыўной каманды) – даюць дазвол камерсанту на яе разборку. Непарадак у нашым "белым доме"!

Аўтар гэтых радкоў адпрацаваў 15 гадоў майстрам, прарабам і начальнікам будаўнічага ўчастка. Але тое было ў Латвіі і ў горадзе Вентспілс. Таму аўтарытэтна скажу: каб атрымаць дазвол на вытворчасць работ, трэба было прайсці "кругі пекла". Перад тым, як прыгнаць на нейкую вуліцу тэхніку (экскаватары і бульдозеры), трэба прайсці ўсе інстанцыі: газавую службу, водаканал, упраўленне цеплавых сетак, вузел сувязі, электрычныя сеткі, камбінат добраўпарадкавання… Потым з усімі паперамі, дзе напісана "УЗГОДНЕНА",– у адміністрацыйную камісію пры Вентспілскім гарвыканкаме. А там начальнік камісіі – дужа злы дзядзька, латыш па прозвішчы Браўнс. І тое яму не так, і гэта яму не так! Просіш яго, каб даў тэрмін 20 дзён на вытворчасць работ па пракладцы камунікацый… А ён – не! Тыдзень! І працаваць дзёна й ночна! Падставіўшы свой уласны подпіс – нясеш поўную адказнасць за тэрміны і якасць работ. Калі не – штраф з уласнае кішэні! А каб дрэва нейкае спілаваць у горадзе, якое трапляе пад забудову, – збіралася цэлая камісія. Во як! І гэта было, дарэчы, яшчэ ў Савецкай Латвіі.

Мне цяжка каментаваць тое, што адбываецца ў Глыбокім, бо тут шмат чаго па-за межамі ўсякае логікі. Але вось так проста разабраць брукаванку, якой ці не 300 гадоў! Ніхто не меў права даць такое ўзгадненне без дазволу Міністэрства Культуры.

Што тут казаць! Улады «предполагают», а камерсанты - «располагают». Натуральна, што камерсант, спадар Канцэдалаў, «располагает» сродкамі, каб да сваёй крамы пакласці асфальт і, пэўна, без праблемаў узгадніў тое са спадаром Янкевічам, намеснікам старшыні райвыканкама па будаўніцтве. І вінаваціць спадара Канцэдалава няма ў чым.

Дзіўна, што шмат хто нават з чыноўнікаў ківае ў бок спадара Янкевіча і вінаваціць яго ў нелюбові да нашае гістарычнае спадчыны. Я не думаю, што спадар Янкевіч паквапіўся б на брук, па якім, гіпатэтычна, хадзіў сам Напалеон Банапарт, каб арганізатары свята не «сачынялі» пратакол аб намерах, а даўно зацвердзілі б план мерапрыемстваў да Дня беларускага пісьменства, у тым ліку і аднаўленне брукаванкі ўздоўж сабора Ражства Багародзіцы. Усё ж, роўна год застаўся! Больш таго, Глыбокае як адзін з гістарычных гарадоў Беларусі не мае «сваёй канстытуцыі» – перспектыўнага генплана гадоў так на 20 наперад з указаннем усіх значных аб'ектаў, якія прадстаўляюць гістарычную каштоўнасць і падлягаюць ахове.

Гісторык **Аляксандр Івашчонак**, наш зямляк, які цяпер жыве ў далёкім замежжы, прачытаўшы навіну аб разбурэнні брукаванкі на сайце **westki.info**, знайшоў цэлы букет парушэння заканадаўства і так пракаментаваў сітуацыю:

"Глыбоцкія ўлады павінны зразумець, што не могуць разбіраць брук з XVIII ст., які з'яўляецца гістарычнай спадчынай Беларусі. Згодна з Законам Рэспублікі Беларусь аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны – унікальны глыбоцкі брук з XVIII ст. з'яўляецца матэрыяльнай каштоўнасцю, а дакладней, згодна з **Артыкулам 3**. Класіфікацыя каштоўнасцей, падпунктам 1а) – нерухомай матэрыяльнай каштоўнасцю, перамяшчэнне якой у прасторы звязана з ажыццяўленнем шэрагу інжынерных мерапрыемстваў і вядзе да частковай або поўнай страты ёй адметных каштоўных вартасцей. Згодна з **Артыкулам 22** Закона Рэспублікі Беларусь аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны, унікальны глыбоцкі брук з XVIII ст. з'яўляецца таксама часткай комплекснай каштоўнасці Рэспублікі Беларусь сабору Раства Багародзіцы ў Глыбокім (былога кляштара кармэлітаў босых XVIII ст.).

Аднак мясцовыя ўлады не выканалі свайго абавязку, а тым самым парушылі дзеючае заканадаўства РБ – Закон аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны, а менавіта:

**Артыкул 27.** Прынцыпы зберажэння гісторыка-культурных каштоўнасцяў.

**Артыкул 28**. Непасрэднае забеспячэнне захаванасці матэрыяльных нерухомых каштоўнасцяў.

**Артыкул 29.** Ахова асяроддзя матэрыяльных нерухомых каштоўнасцяў.

**Артыкул 33.** Абмежаванне або поўная забарона руху транспартных сродкаў на дарогах, якія прылягаюць да нерухомых матэрыяльных каштоўнасцяў або зон іх аховы.



Тут была брукаванка, на якой заставаўся след бурлівай глыбоцкай гісторыі. Няма брукаванкі – няма і следа гісторыі.

**Артыкул 44.** Дзейнасць, якая датычыцца каштоўнасцяў.

**Артыкул 50.** Парадак правядзення работ на матэрыяльных каштоўнасцях.

**Артыкул 51.** Работы ў зонах аховы нерухомых матэрыяльных каштоўнасцяў.

**Артыкул 82.** Умовы выкарыстання каштоўнасцяў.

Таму ўсе асобы, звязаныя з разбурэннем унікальнага Глыбоцкага Бруку з XVIII ст., а таксама ўсе адказныя чыноўнікі ў Глыбокім, якія не зрэагавалі, павінныя панесці адказнасць згодна з Законам аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны, а менавіта:

**Артыкул 94.** Адказнасць за парушэнні заканадаўства аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны

За невыкананне абавязкаў па ахове, выкарыстанні, уліку, рэстаўрацыі і даследаванні гісторыка-культурнай спадчыны, парушэнне рэжыму ўтрымання ахоўных зон, знішчэнне (стварэнне пагрозы знішчэння), прычыненне шкоды (стварэнне пагрозы прычынення шкоды) каштоўнасцям, парушэнне правіл іх увозу і вывазу, а таксама за іншыя парушэнні заканадаўства аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны вінаватыя службовыя ці фізічныя асобы прыцягваюцца да крымінальнай, адміністрацыйнай, грамадзянска-прававой ці дысцыплінарнай адказнасці ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

Мы, усе сумленныя глыбачане, павінныя напісаць скаргу не толькі да Дэпартамента па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь, але перадусім да самога міністра культуры Рэспублікі Беларусь паважанага спадара Паўла Латушкі, каб паведаміць яму аб тым, што глыбоцкія чыноўнікі з'яўляюцца несумленнымі ў выкананні сваёй працы, а перадусім асобамі, для якіх гістарычная і культурная спадчына не мае аніякай вартасці, таму яны з'яўляюцца нягоднымі, каб праводзіць Дзень беларускага пісьменства!»

Быў брук! Няма бруку! І што пакажам турыстам? На новым чорным асфальце не будзе слядоў Напалеона...

■ **Уладзімір Скрабатун**

# Няспраўныя электраўстаноўкі – пагроза жыццю і здароўю

■ **А.С.Крывёнак,**
*старшы інспектар Глыбоцкага МРА «Энерганагляд».*

Вытворчы электратраўматызм знаходзіцца ў прамой залежнасці ад узроўню арганізацыі эксплуатацыі электрагаспадаркі. Нездавальняльны стан электрагаспадаркі спараджае электратраўмы не толькі электратэхнічнага персанала, але і работнікаў іншых прафесій і спецыялістаў.

Асноўнымі патрабаваннямі мерапрыемстваў, якія ажыццяўляюць бяспеку работы ў электраўстаноўках, з'яўляюцца: афармленне работы нарадам-допускам, распараджэннем ці пералікам работ, выкананых у парадку бягучай эксплуатацыі; допуск да работы; выкананне неабходных адключэнняў і прыняцце мер, што перашкаджаюць падачы на месца работы з прычыны памылковага ці самаадвольнага ўключэння камутацыйнай апаратуры; праверка адсутнасці напругі на токаводных частках, якія павінны быць заземлены для абароны людзей ад паражэння электрычным токам; накладанне зазямленняў.

Так, няшчасны выпадак са смяротным зыходам адбыўся 08.06.2011 года з тэхнікам-электрыкам СВК «Глінкоўскі» Столінскага раёна Брэсцкай вобласці, які праводзіў агляд памяшкання былога склада ачысткі збожжа з мэтай вызначэння месца ўсталёўкі новай уводна-размеркавальнай прылады. Старое электраабсталяванне склада было дэмантавана некалькі гадоў назад, частка ўводнага кабеля ад трансфарматарнай падстанцыі, якая праходзіла ў памяшканні склада, была згорнутая ў бухту, канцы токаводных жыл ізаляваны не былі. Пры спробе разматаць кабель з мэтай вызначэння яго даўжыні пацярпелы дакрануўся да неізаляванага канца адной з токаводных жыл і трапіў пад дзеянне электрычнага току. Прыбыўшая на месца здарэння брыгада хуткай медыцынскай дапамогі канстатавала смерць. Пасля было ўстаноўлена, што ўказаны кабель ад размеркавальнай прылады адключаны не быў і знаходзіўся пад напругай.

**У мэтах забеспячэння электрабяспекі на аб'ектах сельгаспрадпрыемстваў Энерганагляд прадпісвае:**

**1.** Укамплектаваць энергаслужбу неабходнай колькасцю электратэхнічнага персаналу.

**2.** Забараніць эксплуатацыю тэхнічна няспраўных электраўстановак.

**3.** Не дапускаць выпадкаў правядзення работ у электраўстаноўках без выканання арганізацыйна-тэхнічных мерапрыемстваў, якія ажыццяўляюць бяспечнае выкананне работ.

**4.** Забяспечыць своечасовае і якаснае выпрабаванне электраўстановак і планава-папераджальныя рамонты электраабсталявання.

**5.** Забяспечыць электратэхнічны персанал ахоўнымі сродкамі паводле патрабаванняў Правіл ужывання сродкаў абароны ў электраўстаноўках.

**6.** Перад пачаткам пасяўных, уборачных, будаўнічых і іншых работ у ахоўнай зоне ліній электраперадач правесці пазапланавы інструктаж персаналу пра парадак правядзення работ у дадзенай зоне.

**Энерганагляд папярэджвае: У адпаведнасці з артыкулам 20.12 Кодэкса Рэспублікі Беларусь пра адміністрацыйныя правапарушэнні парушэнне Правіл эксплуатацыі электраўстановак, што стварае пагрозу жыццю і здароўю людзей, прыводзіць да гібелі жывёл, узнікнення пажару ці аварыі, цягне накладанне штрафу ў памеры: на фізічную асобу – ад дзесяці да трыццаці базавых велічынь, на юрыдычную асобу – ад трыццаці да пяцісот базавых велічынь.**

# Нам зверху відаць усё, ты так і ведай



■ **А.В. Протас**, *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслліннага свету.*

**Тэхнічны прагрэс не стаіць на месцы, больш дасканалымі становяцца тэхналогіі, развіваюцца вытворчасці, не стаяць на месцы і браканьеры. Яны ўсё часцей выкарыстоўваюць для здзяйснення сваіх варварскіх вылазак найноўшыя тэхнічныя дасягненні, прыборы начнога бачання, сродкі радыёсувязі і г.д.**

Аднак і прыродаахоўныя органы імкнуцца ісці ў нагу з часам. Нягледзячы на складанае фінансавае становішча ў краіне, прыродаахоўныя органы абсталёўваюцца сучаснымі сродкамі сувязі і назірання, відэа- і фотафіксацыі, а калі прыродаахоўныя органы працуюць сумесна з сілавымі структурамі, то гэта заўсёды дае дадатны вынік.

Так, 14 чэрвеня 2011 года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраінспекцыі сумесна з вайскоўцамі авіяцыйнай эскадрыллі памежных войскаў, размешчанай у г. Паставы, правялі рэйдавыя мерапрыемствы па спыненні фактаў браканьерства. З паветра ўся тэрыторыі Пастаўскага і Глыбоцкага раёнаў як на далоні і браканьерам схавацца практычна немагчыма. Можа быць, першыя рэйдавыя мерапрыемствы прайшлі і не зусім удала, але яны далі дадатны вынік. Каля 23 гадзін ночы з патрульнага верталёта памежзаставы рэйдавай групе Глыбоцкай міжраінспекцыі паступіў сігнал пра тое, што на адным з вадаёмаў Пастаўскага раёна невядомы грамадзянін ставіць сеткі. Рэйдавая група неадкладна выбыла ў паказанае месца і затрымала жыхара г. Паставы, які ну ніяк не чакаў сустрэчы з інспектарамі. Такія рэйды будуць праводзіцца рэгулярна.

19 чэрвеня 2011 года свой прафесіяналізм паказалі супрацоўнікі Пастаўскага аддзялення «Ахова» МУС Рэспублікі Беларусь. Каля 6 гадзін раніцы да іх паступіла паведамленне, што прама ў цэнтры г. Паставы двое браканьераў ловяць рыбу сеткамі, але не чакалі парушальнікі, што для іх супрацоўнікі міліцыі ўжо расставілі сеткі, у якія родныя брат і сястра – сямейны падрад – трапіліся, як толькі выплылі на бераг. Жанчына запэўнівала работнікаў міліцыі і інспекцыі, што рыбку яна лавіла для каханага мужчыны, у якога быў дзень нараджэння. Аднак, калі мужчыну 57 гадоў, а жанчыне 27 гадоў, няўжо гэта каханне!? Зараз брату і сястры прыйдзецца адказваць перад судом.

А вось жыхар г.п. Лынтупы Пастаўскага раёна грамадзянін Н. вырашыў правесці вечар на паляванні, але дакументы на права здабычы дзікіх жывёл не ўзяў. Зарадзіўшы стрэльбу, сеў у аўтамашыну і паехаў калясіць па дарогах і вёсках раёна, толькі доўжылася вандраванне нядоўга, спынілі яго супрацоўнікі Глыбоцкай міжраінспекцыі сумесна з работнікамі Пастаўскага лясгаса. Стрэльба ў парушальніка канфіскавана, матэрыялы накіраваны ў Пастаўскі раённы суд.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць па тэлефонах: «гарачая лінія» 8-02156-2-86-70, маб. 897-23-02, 890-55-28,249-45-49.

# Google Maps абнавіў спадарожнікавыя здымкі нашага рэгіёна

Возера Пліса Вялікая з космаса.




■ **Кастусь Шыталь**

Многія рэчы, пра якія раней можна было толькі марыць, сталі даступнымі дзякуючы развіццю Інтэрнэта. Адным з цікавых для карыстальнікаў сеціва сэрвісаў з'яўляецца Google Maps, на якім сабраныя фотаздымкі зямной паверхні, зробленыя касмічнымі спадарожнікамі NASA.

Да нядаўняга часу Google Maps не ўяўляў вялікай цікавасці для нашага рэгіёна, бо фотаздымкі Глыбокага і навакольных мясцінаў былі вельмі невыразнымі. Але за апошнія паўтары гады Google зрабіў два абнаўленні спадарожнікавых здымкаў, пасля якіх на Глыбоччыне і ў суседніх раёнах можна разглядзець літаральна кожны дом.

Нашыя маляўнічыя палі, лясы, лугі, азёры цудоўна выглядаюць і на касмічных фотаздымках. З дапамогай Google Maps можна разгледзець многія месцы, куды "ў рэале" складана патрапіць – далёкія закуткі Галубіцкай пушчы, забалочаныя берагі Сэрвачы, гіганцкія торфараспрацоўкі пад Крулеўшчынай.

У той жа час фотаздымкі на Google Maps з'яўляюцца "сырым матэрыялам", які патрабуе дапрацоўкі з боку карыстальнікаў. З дапамогай сеціўнага інструмента Google Map Maker кожны карыстальнік можа падпісваць на здымках назвы населеных пунктаў, прыродных аб'ектаў, прамалёўваць дарогі. Пакуль што ў Глыбокім прамалявана толькі некалькі вуліц, але кожны ахвотны можа прысвяціць гадзінудругую ўдасканаленню сеціўнай карты роднага горада.

# Летні фота- і відэаконкурс, сур'ёзныя прызы

Пераможцаў вызначае рэдакцыя штомесяц

**Што адбываецца там, дзе вы цяпер, як выглядае крызіс і выхад зь яго, што мяняецца і што застаецца бязь зьменаў?**

ФОТАКОНКУРС

**Першы прыз і трохмесячнае падключэньне да хуткаснага Інтэрнэту ці 15 кг грэчкі.**

**Другі прыз — двухмесячнае падключэньне да хуткаснага Інтэрнэту ці 10 кг грэчкі.**

**Трэці прыз — аднамесячнае падключэньне да хуткасна-га Інтэрнэту ці 5 кг грэчкі.**

Прысылайцесваездымкі (з кароткім апісаньнем — што? дзе? калі?) на адрас **radiosvaboda@gmail.com.** Рэкамэндаваны памер фотаздымка: 800 х 600 піксэляў, разьдзельнасьць – 72 dpi.

Патрабаваньні да відэа: максімальны хранамэтраж – 1 хвіліна. Калі памер вашага відэа перавышае 25 мэгабайтаў (дапушчальны памер файла для дасылкі на нашую электронную пошту), вы можаце запампаваць яго на любы файлаабменны сэрвіс (напрыклад, www.sendspace.com) і дасылаць нам на пошту спасылку. Яшчэ адзін варыянт: калі маеце свой экаўнт на YouTube – запампоўвайце туды і дасылайце нам спасылку на **radiosvaboda@gmail.com.**

Дасылаючы здымак ці відэа на svaboda.org, Вы павінны ведаць, што фотаздымак ці відэа трапляе пад правілы Радыё Свабода. Здымак ці відэа не аплачваецца, мы пакідаем за сабой права скарыстаць яго на сайтах Радыё Свабода, а таксама ў іншых СМІ. Пры гэтым Вы захоўваеце аўтарскае права на здымак ці відэа, і мы пазначаем Ваша імя пад здымкам (відэа). Радыё Свабода ня можа гарантаваць, што мы апублікуем усе вашыя здымкі (відэа). Пры адборы да публікацыі перавага даецца актуальным фота- і відэаздымкам падзеяў, людзей, сытуацый. Радыё Свабода захоўвае за сабой права рэдагаваць камэнтары да фота- і відэаздымкаў. Здымкі рэпартажнага характару павінны быць зроблены без ужываньня Фотапшопу і іншых мантажных сродкаў і прыёмаў, якія скажаюць рэальную карціну.

# Віншаванкі



*Леаніда Іванавіча і Кацярыну Уладзіміраўну Лапуцэвічаў*

**Віншуем з залатым юбілеем вяселля!**

Полвека вместе шли всегда,
И любовь во всем вам помогала,
Словно путеводная звезда,
Равняя в большом и в самом малом.
Поздравляю с днем таким счастливым,
С датой замечательной такой.
С редким и вдвойне прекрасным дивом –
Настоящей свадьбой золотой!



*Сваты.*

*Людмілу Іванаўну Марговіч*

**Віншуем з юбілеем!**

**Мілая, добрая, любімая, самая пяшчотная матуля, жонка, бабуля. Віншуем цябе з юбілеем! Жадаем моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту, шчасця і ўдачы ва ўсім.**

Хоть этот день не шумный праздник,
Не красный день в календаре,
Он самый лучший и прекрасный –
Ты появилась на земле.
И мы тебя сердечно поздравляем
С таким прекрасным светлым днём,
От всей души тебе желаем
Любви и радости во всём!



*Муж, дзеці, унукі Мікіта і Улад.*

*Андрэя Браніслававіча Хаданёнка і Наталію Канстанцінаўну Протас*

**Віншуем з заключэннем шлюбу!**

С законным браком поздравляем,
И много счастья вам желаем.
Мы говорим сейчас всерьез:
Пусть миллион прекрасных роз
Лежит на всём большом пути,
Что будет суждено пройти.
И пусть костер большой любви
Горит, не угасая!
С любовью легче жизнь пройти —
Об этом всякий знает.
Во всем согласья достигайте,
Живите много лет.
Всегда друг друга уважайте,
Любовь вам да совет!



*Ад сям'і Дубіна*

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

27 чэрвеня – 3 ліпеня 2011 г.



Вы можаце падаць сваю прыватную абвестку і па хатнім тэлефоне на нумар 166 кругласутачна. Выразна назавіце газету. У дадзеным выпадку – "Вольнае Глыбокае".
Кошт абвесткі аб'ёммам да 5 слоў – 2500 р.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 27 чэрвеня



**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00** (с сурдопереводом), **15.00, 19.00, 23.40** Новости.
**06.05, 07.10, 08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.05, 08.05** Зона Х. Дорожные новости.
**07.30, 08.25, 11.50** «Деловая жизнь».
**08.30** «Горожане»: Хильверсум (Голландия).
**09.10 «Маргоша»**
**10.05** Женское ток-шоу «Жизнь как жизнь». « Хочу прославиться «.
**11.05 «Маруся. Возвращение»**
**12.10** Фильм -фэнтези **«Необычайные приключения Адель»** (США).
**13.50** Синематека.
**14.30** Nota Bene.
**15.15, 19.20** Новости региона.
**15.35** «Здоровье».
**16.05** Требуется.
**16.20** «Светлана Светличная».
**17.10 «Маршрут милосердия»**
**18.00 «Маруся. Возвращение»**
**18.50, 01.10** «Зона Х».
**19.30** «Арена».
**19.55 «Маргоша»**
**21.00** «Панорама».
**21.45** «Командировка».
**21.55 «Три цвета: Синий»**
**23.55 «Доктор Хаус5»**
**00.40** «Эпоха». Звезды 64-го Каннского кинофестиваля. Фильм 1-й.
**01.15** День спорта.



**06.00, 09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10** «Смак».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10 «Любительница частного сыска Даша Васильева»**
**11.55** «Детективы».
**12.30** «Живая природа: прямой репортаж».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** Тележурнал «Союз».
**13.45** «Модный приговор».
**14.45** «Понять. Простить».
**15.25** «Хочу знать»
**16.00** Наши новости (с субтитрами).
**16.10** Новости спорта.
**16.15 «Обручальное кольцо»**
**17.05 «Участок»**
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». « Под чужим именем.

Командировка в страну «Х».
**18.55** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05 «Серафима Прекрасная»**
**22.10** Премьера. Нелли Уварова в фильме **«Атлантида»**. Россия, 2007.
**23.05** «Войны наследников».
**00.05 «Крем»**
**00.55-01.25** Ночные новости.



**07.00** «ЛАДное утро».
**08.00** Телебарометр.
**08.05 «Ты моя жизнь»**
**09.00 «Универ»**
**10.10 «Терминатор-2: Судный день»**
**12.30** Пра мастацтва.
**13.00** «Навіны надвор'я».
**13.30** Приключенческий фильм **«Кортик»** («Беларусьфильм»). 3-я. Заключительная серия.
**14.50** Внеклассный час.
**15.05** «Час суда. Дела семейные».
**16.10** Врачебные тайны
**16.45** Врачебные тайны +.
**16.55** Битва экстрасенсов.
**17.55 «Ты моя жизнь»**
**19.00** Киноповесть «Ещё о войне» («Беларусьфильм»).
**20.00** Белорусское времечко.
**21.00** Калыханка.
**21.15** Телебарометр.
**21.20** КЕНО.
**21.25** Баскетбол. Чемпионат Европы. Женщины. Матч квалификационного раунда.
**23.05 «Универ»**
**00.05** Битва экстрасенсов.



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя». .
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40 «Наши соседи»**. Сериал.
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** «Большой город».
**13.10** «Дальние родственники».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг». Шир против группы «НЕРУШ».
**15.00** Концерт Михаила Задорнова.
**16.00** «КультУРА!».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.35** «Званый ужин».
**18.30 «Огонь любви»**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.25** «Наше кино»: **«ИНСАЙТ»**. Беларусь, 2009 г.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Столичный футбол».
**23.30** «Тайны мира с Анной Чапман».

БЕЛСАТ tv BELSAT

**7:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**7:30** Гісторыя пад знакам Пагоні
**7:40 «Час гонару»**35 серыя
**8:25** Чаму дэмакратыя? 4 серыя: «У пошуках Гандзі»
**9:15** Прыватная калекцыя
**9:35** На колах
**10:05** Без рэтушы: «Беларускі лес», дак. фільм, 2008 г., Беларусь
**10:30** МакраФон: «Рок па вакацыях–1996»
**11:20** Басанож па свеце
**11:50** Моўнік
**12:00** Аб'ектыў
**12:05 «Прынцэсы»**
**13:50 «Час гонару»**35 серыя
**14:35** Чаму дэмакратыя? 4 серыя: «У пошуках Гандзі»
**15:30** На колах
**16:00** Без рэтушы: «Беларускі лес», дак. фільм, 2008 г., Беларусь
**16:30** Эксперт
**17:00** Аб'ектыў
**17:05 «Ранча Піковая Сямёрка»**, серыял: 14 серыя
**17:30 «Час гонару»**35 серыя
**18:15** Чаму дэмакратыя? 4 серыя: «У пошуках Гандзі»
**19:10** Побач з намі
**19:30** Аб'ектыў
**19:35** Калыханка для самых маленькіх
**19:45** «Над Нёмнам»
**20:00** Еўропа сёння
**20:30** Эксперт
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Прэс-экспрэс
**21:40 «Прынцэсы»**
**23:30** Аб'ектыў



ПАНЯДЗЕЛАК, 27 чэрвеня

## ІМЯНІНЫ

**23 чэрвеня**
**Пр.:** Антаніны, Мікалая, Паўла, Аляксандра, Васіля, Цімафея.
**К.:** БОЖАЕ ЦЕЛА, Агрыпіны, Ванды, Пятра, Юзафа.

**24 чэрвеня**
**Пр.:** Варнавы, Варфаламея, Яфрэма.
**К.:** КУПАЛЛЕ (Нараджэнне Яна Хрысціцеля), Дануты, Эміліі, Яніны.

**25 чэрвеня**
**Пр.:** Ганны, Андрэя, Арсенія, Івана, Пятра, Сцяпана.
**К.:** Элеаноры, Вітольда, Максіма.

**26 чэрвеня**
**Пр.:** Антаніны, Ганны, Дзмітрыя, Івана, Савы.
**К.:** Дануты, Магдалены, Паўла, Яна.

**27 чэрвеня**
**Пр.:** Аляксандра, Георгія,Мсціслава, Мікалая.
**К.:** Марыі, Тэрэзы, Уладзіміра, Уладзіслава.

**28 чэрвеня**
**Пр.:** Рыгора,Лазара, Фёдара.
**К.:** Вольгі, Раісы, Вінцэнта, Лявона, Паўла.

**29 чэрвеня**
**Пр.:** Міхаіла, Пятра, Ціхана
**К.:** СВЯТЫХ АПОСТАЛАЎ ПЯТРА І ПАЎЛА, Саламеі, Францішка.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Якутский эпос | Металл | | | | | | | |
| | | | | Девичья краса | | Двучлен | Слуга | Переводчик | |
| | Передняя часть головы человека | Река в Западной Африке | | | | | | | |
| | | | | Стеклянный сосуд для лекарства | | Испарина | | Ветвь хвойного дерева | |
| | Конечность | | Сорт вишни | | | | | | |
| | | | | | Удар в боксе | | | | |
| Автор текста "Интернационала" | Горный массив в Греции | | Положение в шахматах | | | | Пахотное орудие в Средней Азии | | Торчащий вихор |
| | | | | | Парнокопытное животное | Многолетний лед в полярных водах | | | |
| Европейская национальность | | Бродячий торговец | Прибалтийская столица | | | | | Заразная кожная болезнь | |
| | | | Буква кириллицы | | Алкогольный напиток из сока пальм | | | | |
| Коптить ... | | | | | Налог в странах ислама | | | | Английский композитор |
| Обрыв у берега моря | | | Рыба семейства карповых | | | | | | |

**Ответы на сканворд № 24**
**По горизонтали:** Труппа. Иглу. Вотчина. Гора. Тепари. Ретро. Азия. Бан. Брно. Ирга. Лихо. Реж. Икки. Марс. Дох. Ян. Кратон. **По вертикали:** Ниагара. Тува. Устье. Приказ. Мания. Ритор. Тобольск. "Панихида". Ринг. Бремя. Рокот. Аши. Жан. Кхо.

## ГАРАСКОП
### на новы тыдзень

**АВЕН.** Тыдзень удалы для наладжвання сувязяў на афіцыйным узроўні. Калі будзеце паводзіць сябе тактоўна, то без вялікіх намаганняў дасягняце жаданага. Тым больш, што арганізм цяпер у выдатнай форме. Чым больш вы працуеце, тым больш энергіі ў вас з'яўляецца. Тым часам не забывайцеся пра ўласныя запатрабаванні ў ежы і адпачынку. Увагу свайму здароўю надайце ў сярэдзіне тыдня. Не выключаны бясконцыя клопаты з дакументамі і сямейныя паездкі. Выхадныя лепш за ўсё правесці на прыродзе з сябрамі і сям'ёй.

**ЦЯЛЕЦ.** Дагэтуль канфлікт у працоўным калектыве адбываўся на ўтоеным, эмацыйным узроўні. Цяпер ён можа стаць рэальным. Надышоў час пажынаць плады таго, што было пасеяна раней. Аднак вы маеце шанец не толькі паменшыць негатыўныя наступствы, але і павярнуць сітуацыю сабе на карысць. У першай палове тыдня асцярожна з пакупкамі і рызыкоўнымі гульнямі. Не ўпадайце ў крайнасці - гэта можа негатыўна адбіцца на вашым здароўі. У канцы тыдня ўстрымайцеся ад далёкіх паездак.

**БЛІЗНЯТЫ.** Тыдзень удалы для наладжвання фінансавых адносін. У справах вас падтрымлівае моцная рука, таму можна брацца за ажыццяўленне самых адважных планаў. Вялікі аб'ём працы прымушае працаваць звыш меры. З-за ўласнай неасцярожнасці можна лёгка патрапіць у інтрыгу, стаць ахвярай паклёпу, махлярства. У другой палове тыдня вы схільныя пускаць важныя справы на самацёк. На працягу ўсяго тыдня на першым месцы будуць сябры. Сардэчныя сувязі пагражаюць скандалам у канцы тыдня.

**РАК.** Напачатку тыдня вам прыйдзецца даказваць сваю прафпрыдатнасць і вытрымліваць жорсткую канкурэнцыю з боку калегаў. Гэта сітуацыя ў далейшым можа стаць яшчэ больш складанай. Калі вы працуеце ў банку, страхавой кампаніі, падатковай інспекцыі, то напачатку тыдня перажывіце невялікі стрэс. Прага "бурнай" дзейнасці ў сярэдзіне тыдня. Занадта вялікі акцэнт на зараблянні грошай можа нашкодзіць вашай рэпутацыі. Прыслухоўвайцеся да цікавай інфармацыі, якая паступае.

**ЛЕЎ.** Вельмі ўдалы тыдзень для прадстаўнікоў знака. На працы ўсё выдатна, поспех застаецца вашым спадарожнікам, нястомная праца будзе ацэнена начальствам па заслугах. Як мага больш рухайцеся, змена становішча - выдатны тонік для здароўя. Вялікая верагоднасць знаёмства з уплывовымі людзьмі, сустрэча з якімі кардынальна зменіць далейшае жыццё да лепшага. У выхадныя ваша арыгінальнасць выходзіць за рамкі разумнага.

**ПАННА.** Наладжванне сувязяў будзе спрыяць эфектыўнай працы з інфармацыяй. Важней за ўсё ваша ўпэўненасць у тым, што вы робіце, уменне выявіць тое, што вам трэба. У пачатку тыдня вы можаце нашкодзіць, паколькі не хопіць настойлівасці давесці пачатую справу да канца. Няпросты перыяд для распачынанняў і змены дзейнасці. Сяго-таго фінансавыя справы прымусяць адправіцца ў дарогу. Не прымайце паспешных рашэнняў у сярэдзіне тыдня. З'явяцца новыя планы і перспектывы.

**ШАЛІ.** Вы шмат і зацята працуеце. Сваімі дзеяннямі сёння вы закладваеце падмурак прафесійнай дзейнасці на найбліжэйшую будучыню. Нарэшце прыйшоў час, калі вашы намаганні будуць узнагароджаны. Вас чакае поспех, прызнанне і, магчыма, павышэнне па службе. На выхадных вы адчуеце невялікі заняпад сіл, але зможаце з ім лёгка зладзіцца. Ешце больш свежай садавіны, займіцеся спортам.

**СКАРПІЁН.** У вас з'явіцца магчымасць памножыць свой капітал дзякуючы новым, вельмі незвычайным партнёрам. У сярэдзіне тыдня не варта шукаць вінаватых, а паспрабаваць плённай працай выправіць сітуацыю, якая склалася ў бізнесе. Калі цвёрда ўпэўнены ў сваёй праваце - не паддавайцеся, адсякайце неабгрунтаваныя патрабаванні. Адважна плануйце адпачынак і вандраванні на гэты тыдзень, яны прынясуць шмат прыемных уражанняў і новых магчымасцяў. Здароўю нічога сур'ёзнага не пагражае.

**СТРАЛЕЦ.** Калі адносіны, заснаваныя на залішніх абавязках, абцяжарваюць вас, задумайцеся над іх карэкцыяй. Такая карэкцыя будзе немінучай на працягу ўсяго лета, але лепш звярнуць на гэта ўвагу ўжо зараз. Хранічна бракуе часу, таму імкніцеся прытрымлівацца рэжыму, добра арганізуйце працу і побыт, хоць рэальна гэта будзе зрабіць няпроста. У канцы тыдня - верагоднасць неспадзяваных падзей. Сямейныя Стральцы занепакоены паводзінамі дзяцей.

**КАЗЯРОГ.** Кар'ернае ўзыходжанне набірае абароты. Каб рэалізаваць планы, прыйдзецца сур'ёзна папрацаваць і прыкласці нямала намаганняў. Працы безліч, але яна дастаўляе невераготнае задавальненне. Не наламіце дроў, старанна абдумвайце кожны крок. Пазбягайце крайнасцяў у зносінах з акружаючымі, у далейшым гэта можа прывесці да буйнага канфлікту. У канцы тыдня будзьце асцярожныя, вялікая верагоднасць траўматызму. Выхадныя прысвяціце спакойнаму адпачынку на прыродзе.

**ВАДАЛЕЙ.** У прафесійным стаўленні тыдзень удалы. Падвядзіце рысу пад мінулым, узяўшы на ўзбраенне добры жыццёвы досвед, і адважна стартуйце ў будучыню. Тых, хто займаецца камерцыйнай дзейнасцю, чакае поспех. У першай палове тыдня з'явіцца пытанне: грошы выдаткаваць на адпачынак ці ўкласці ў справу. Верагодна прасоўванне па службе. Першыя дні тыдня - эмацыйна напружаныя. Рашэнні прымаюцца стыхійна і не зусім правільна. У другой палове тыдня вас чакаюць вандраванні і камандзіроўкі.

**РЫБЫ.** Пабудаваныя ў мінулым дзелавыя адносіны могуць атрымаць новы імпульс. З'яўляецца шмат магчымасцяў зарабіць грошы і выгадна іх укласці. У гандлёвых і медыцынскіх работнікаў - поспех. Знаёмыя вам зайздросцяць. Досыць "нервовыя" дні – сярэдзіна тыдня. У гэтыя дні Рыбкі не надта ўпэўнены ў сабе. Пара вызваліцца ад хламу, няхай гэта будуць рэчы ці правілы, якія замінаюць вам жыць. У канцы тыдня магчымыя новыя рамантычныя знаёмствы.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі № 1210, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 8 лютага 2010 г.

"Вольнае Глыбокае"
Заснавальнік: Прыватнае інфармацыйна-рэкламнае ўнітарнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень. Аб`ём – 4 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 21. 06. 2011года ў 21.05

«Вольнае Глыбокае» надрукавана на газетнай паперы РВУП **«Завод газетнай паперы» (г. Шклоў).**

Наклад 2000 паасобнікаў

**Рэдактар:**
**Уладзімір Іванавіч Скрабатун.**
**тэлефон / факс:** (02156) 2 46 14;
**E-mail:** vglybokaye@tut.by
Адрас для допісаў:
**211800 г. Глыбокае п/с 3**

Замова № 2041

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў. Спасылкі на "Вольнае Глыбокае" абавязковыя.

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае». Надрукавана ў РУП «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ, 222310, г. Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Афсетны друк.

Юрыдычны адрас: вул. Шпітальная, 44, ком.1, г. Глыбокае.

ISSN 2077-8023

9 772077 802009